

№ 7(392) 17 ЛЮТАГА 1999 г. Наша слова

Насустрач VI з'еду ТБМ

# ТБМ Заводскага раёна горада Менска

**Інтэрвію з кіраўніком раённай рады Лавіцкім М.Е.**

**1. Як дзейнічае ТБМ раёна ?**

— Таварыства не шматлікае. На мінулым справаздачным сходзе прысутнічалі прадстаўнікі 15 суполак. Столькі ж абрана і ў склад раённай Рады. Скажу шчыра, уласна я, дзейнасцю ТБМ раёна не задаволены. Не бачна дзейнасці суполак. Стварэнне іх і рост сяброўства практычна спынены. Таварыства трымаецца толькі за кошт невялікай колькасці актывістаў. Спачувальнікаў шмат і колькасць іх павялічваецца. Аб неабходнасці мець суполкі ТБМ асабліва яскрава сведчыць распад беларускамоўных школ. У іх абароне не было каму быць яднальнай сілай паміж настаўнікамі і бацькамі. Я неадночы выступаў на нарадах дырэктараў школ і вынік нулявы. Гэта лепшы доказ, што дырэктары школ беларускасці не спрыяюць. Стварыць суполкі праз кіраўніцтва прадпрыемстваў таксама выявілася марнай справай. Катастрафічна не хапае актыўных сяброў. Гэта вымусіла нас правесці на трох пікетах адкрыты запіс у нашы шэрагі.

Праведзен цыкл "Паэтычныя сустрэчы", намеснікам старшыні Рады Пятром Русавым арганізаваны дзіцячы паэтычны гурток "Беларускія званы". Праведзены 2 радыёперадачы на аўтазаводскім радыё. Удзельнічалі ва ўсіх мерапрыемствах, праводзімых цэнтральнай, гарадской і іншымі радамі раёнаў горада.

**2. Якія адносіны ўладаў да дзейнасці ?**

— Калі казаць пра адносіны на ўзроўні прадпрыемстваў, то яны не змяніліся і рэгламентуюцца існым выразам: "Мова прыбытку не павялічвае і каўбасы не дабаўляе". Трэба, маўляў, вырашыць спачатку эканамічныя праблемы. Не задумваюцца глыбока аб узаемасувязі, як бы забываючы, што эканамічныя праблемы ніколі не знікаюць, а толькі відазмяняюцца, а вось мова не толькі працягвае відазмяняцца, але можа загінуць назаўсёды, пацягнуўшы да знікнення і ўсю дзяржаву. Бо навошта тады тая дзяржаўнасць, у якой аніякай розніцы ад суседкі, ды яшчэ залежнасці не толькі ад эканомікі, але і ад мовы.

Што тычыцца адносін з адміністрацыяй раёна, то яны не благія. У мінулым, справаздачным перыядзе, сумесна праводзіліся такія мерапрыемствы, як "Сустрэча з Бацькаўшчынай", "Вечарыны беларускага слова", "Паэтычныя сустрэчы". Радай праводзіўся аналіз стану выкарыстоўвання бел.мовы у рэкламах, аб'явах, назвах вуліц, магазінаў раёна. Сустракаліся з кіраўніком адміністрацыі і галоўным архітэктарам, якія станоўча адгукнуліся на арганізаваны сумесна з СДПНГ пікет у абарону назваў вуліц.

**3. Раскажыце пра сацыяльны склад арганізацыі.**

— Асобага ўліку мы не вядзём. Большасць, канешне, не рабочыя. Я, як рабочы, маю рацыю сцвярджаць, што рабочыя працягваюць знаходзіцца пад уплывам мінулай ідэялогіі, абыякавыя да палітычнай, моўнай праблемы — абы каўбаса была, ды танна выпіць.

**4. Якія планы раённай рады на наступны год ?**

— Выбраць найбольш дзеяздольную раду раёна, каб абсалютна ўсе яе сябры былі актыўныя. Правесці пікеты супраць падрыхтаванай чарговай кампаніі вакол мовы у выглядзе спланаванага Міністэрствам статыстыкі апытання насельніцтва. Бо рыхтуецца нейкая пастка для нашага недасведчанага народа. Толькі Богу вядома, з якой мэтай пытаюць у беларуса якая ў яго родная і на якой мове ён гаворыць дома. Разумна паступіць той, хто спыніць гэту дурноту запытваць, накшталт, якая твая родная маці: ці тая. якая нарадзіла, ці тая, якая выхавала. Такое запытваць неэтычна, нават — абраза. Гэта нішто другое, як распальванне міжэтычнай варожасці з боку ўлады, калі яны яшчэ здольныя разумець што-небудзь. Далейшыя планы дзейнасці дапоўніць справаздачна — выбарчы сход.

**5. Ці можа ТБМ уздзейнічаць на палітычныя працэсы у краіне і якім чынам ?**

— Усё што робіць ТБМ, ёсць мэта ўздзеяння на палітычныя працэсы ў краіне. Мова — аргумент у вялікай палітыцы. Што тут тлумачыць. Само існаванне Таварыства павінна ўспрымацца як нонсэнс, але гэта ў дэмакратычнай краіне, дзе дзейнасць улады адпавядае ўласнай этнічнай дзяржаўнасці.

Мы можам удзейнічаць праз сваіх дэпутатаў? Дзе яны? Закон аб выбарах стаіць на баку чынавенства і яго ўмацавання. Мяркуйце самі, у працоўным калектыве, як правіла, самы варты прадстаўнік у кандыдаты — кіраўнік. Доказ таму, маўляў, ён больш карысці прынясе прадпрыемству. Вось, напрыклад, аднаго мне вядомага кіраўніка, абралі дэпутатам (зараз палатнік). Галоўны аргумент "безпамылковага выбару" — зараз заводскія праблемы вырашаюцца імгненна, паперы падпісваюцца на працягу тыдня, а раней — месяцамі. Як гэта назваць? Хіба перафразаваўшы М.Гогаля: "Чыноўнік на чыноўніку едзе і чыноўнікам паганяе". Бюракратычная сістэма дзейнічае і ўмацоўваецца, і праціснуцца ў гэты ланцужок даволі складана — выплёўвае.

Мы можам і павінны дапамагаць уздзейнічаць праз дэмакратычныя партыі. Будзем шчырымі: адымі ад ТБМ сяброў БНФ, СДПНГ, СДПГ, грамадзянскай, сялянскай партый і ці доўга праіснуе таварыства? Ва ўсіх гэтых партыях нацыянальная ідэя і адносіны да мовы — не пусты гук. Вельмі б хацеў больш шырэй даведацца пра сяброў аргкамітэту па ўтварэнню партыі "Наша будучыня", асабліва пра іх актыўнасць у шэрагах ТБМ, што зрабілі для таварыства, электарат якога імкнуцца запалучыць для новай партыі, ці адцягнуць патанцыяльных сяброў ад іншых і пажадана даведацца аб прыкладах "фанабэрыстасці" і "пераацэнкі" саміх сябе, Пазьняка, Шушкевіча, чаго я не заўважаў за імі. Браткі мае, гэта ж — абраза. Гэта спроба ўцягнуць у спрэчкі. Шаноўныя "аб'яднаўцы", я лічу не этычна, нават, удзымаць гэтыя пытанні ў сябе на сходзе. Разумна зрабіць і з'езд, калі паступіць так. Не этычна таму, што я не хачу параджаць адчуванне ў асобных маіх сяброў, вельмі актыўных беспартыйных, сваёй непаўнавартасці і з-за нежадання далучыцца да партыі. Анекдатычна гучыць: "Трэба хутчэй яднацца, трэба ўтвараць адзіную, з'яднаную моцную партыю". Атрымліваецца, што ўсе павінны пакідаць свае партыі і хуценька перабегчы у "Нашу Будучыню".

**6. Якія рашэнні на з'ездзе павінны быць на Ваш погляд ?**

— Рашэнні аб выніках дзейнасці Рады і ўсіх яе структурных оргаанаў. Рашэнне па вынікам выкнння пастноў, прапаноў папярэдніх з'ездаў.

**7. Ці ёсць у Вас прапановы?**

— Аднавіць дзейнасць камісіі пры Радзе. Распачаць выдавецкую дзейнасць. Аргнізаваць выданне зборніка, у які ўвахадзілі б творы аматараў, сяброў ТБМ. навуковыя даследванні, гістарычныя і іншыя матэрыялы, напрыклад, як гэта робіць Менскі клуб "Спадчына" пад кіраўніцтвам Анатоля Белага. Выдаць матэрыялы з'ездаў і навукова-практычных канферэнцый. Распрацаваць Ліст асабліва адзнакі рупліўцаў па адраджэнню Роднага Слова, якім маглі ўшанаваць усе Рады, што маюць пячаткі. На мінулым з'ездзе мною прапанавана стварыць Кнігу брудных спраў у дачыненні да мовы. Завалакіцілі гэту справу. Так ускладнілі, такога навуковага туману напусцілі, што ўсё ў ім і патанула, як мне падалося.

Трэба каб на з'ездзе не гучалі паўгадзінныя ўзнёслыя прамовы пра родную мову, патрыятычныя вершы і т.п. балбатня, беспадстаўная крытыка ўладаў. Крытыка павінна быць: заўважана — прыняты дзеянні (меры) — вынік — рэагаванне ўлады, ці крытыка і прапановы тых, хто здзейсніць мерапрыемства. А так атрымліваецца: накідаюць усялякіх прапаноў, а выконваць іх няма каму.

**8. Вашы адносіны да газеты "Наша слова"?**

Станоўчыя. Лічу, у ТБМ павінна быць адна газета і таму, што нас не шмат, і не такія мы багатыя. Мы павінны прыкласці ўсе намаганні, каб яна стала вельмі змястоўнай, даходзіла да сэрца кожнага чытача, каб павялічваліся іх шэрагі. Гэта і будзе адпавядаць еднасці беларусаў праз газету. У аснове спробы стварэння рэгіянальных газет ТБМ ляжыць ідэя неблагая, але ў сённяшніх варунках лічу гэта немэтазгодным. Лепей выпускаць інфармбюлетэні.

**9. Што б вы пажадалі чытачам нашай газеты.**

— Для нашых сяброў мне няма чаго пажадаць, акрамя здароў'я, астатняе, на маю думку, у іх ёсць: і розум, і здольнасць, і грамадская актыўнасць, і смеласць у барацьбе за мову. А для тых, каму давядзецца чытаць нашу газету ўпершыню, акрамя фізічнага здароў'я — маральнага выздараўлення, хутчэй абудзіцца ад існуючага ачмурэння мінулай ідэалогіі, набрацца смеласці і зрабіць свой выбар на карысць дэмакратыі і памятаваць: зажывеш заможна толькі тады, калі палітыка стане прывілеяй усіх, а не выбраных.

Далучайцеся да ТБМ!

*Тамара Антончык.*

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Віна, правіна, правінка, правіннасць і праступак.*** Слова ***праступак*** не фіксуе "Беларусі-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. З значэннем рас. ***проступок*** тут бычыць слова ***правіна*** і памянш. ***правінка*** (Мн.,1926.С.243). Першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" (Мн., 1953. С. 544) падае: "***Праступок м. правіннасць, -ці, ж; (віна) віна, -ны, ж.***" Не лічыць літаратурнаю нормаю слова ***праступак*** і "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 г.: "***Праступак м.см. правіннасць***" (С.727). Не падае гэтага слова і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996), а толькі: "***Правіннасць ж. Дрэнны ўчынак, віна***" (с.488). Упершыню з акадэмічных даведнікаў слова ***праступак*** як дублет да ***правіннасць*** падаў РБА-82: "***Проступак, м. — правіннасць,-ці, ж; праступак, - пка, м.*** (Т.2.С.251). Але ж ці ж закангамернае яно тут? Рас. ***проступок*** матывуецца дзеясловам ***проступить*** (утварэнне: ***проступ-ок***), якое ў гэтым жа слоўніку мае іншапрафіксаваны адпаведнік: "***Проступать (проступить) — выступаць; пот проступил у него на лице — пот выступіў у яго на твары; вода проступила — вада выступіла***". Натуральным утварэннем тут было б хіба што "***выступак***". Але ж у мове беларускай бытуе з знач. рас. ***проступок*** сваё слова ***правіннасць*** і яго аднакаранёвыя эквіваленты ***правіна*** і ***правінка,*** утвораныя ад дзеяслова ***правініцца*** (варыянт ад ***правінаваціцца***): ***правін -а*** (нульсуфіксаванае ўтварэнне, як і ***праступа*** ад ***праступіцца***) і ***правіннасць*** ад ***правінны***. "Русско-белорусский словарь" 1993 года, нажаль, прадубляваў цалкам гэты артыкул з РБС-82. А норму выкарыстання тут засведчыў "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 164), дзе чытаем: "***Проступок — правіна, ж.р., правіннасць, ж.р., дисциплинарный проступок — дысцыплінарная правіна***". Параўн. у Ніла Гілевіча: "***Мне даравала, як у час расстання і ўсе астатнія правіны***". ("Лодачкі") Полымя. 1998. №9 С.56.

***Аварыйнік і аварыйшчык.*** Слова ***аварыйнік*** называе працаўніка аварыйнай службы. Тут вытворнае слова ***(аварыйнік)*** і ўтваральнае ***(аварыйны)*** маюць супольную аснову ***(аварыён-)*** і выразна вытлумачальную семантыку. Як і ***авантурнік*** і ***авантурны***, ***алейнік*** і ***алейны*** ды падобныя. Слова ***аварыйшчык (<рас. аварийщик)*** не мае згаданых перавагаў і ўсведамляецца як штучнае. Недарэмна апошнім часам наш перыядычны друк аддае перавагу ўтварэнням на -нік (на месцы падаваных слоўнікамі з ***- чык (-шчык)***: ***алейнік, бунтаўнік***, ***вязальнік, даследнік*** (Які ***правяральнік*** і забаронца// Полымя. 1998.№ 5.С.261). "Во ***думаннік***, во мысляр, калі ўжо проста не філосаф! Янка Брыль. Пішу, чытаю, жыву. // Полымя, 1998.№ 5.С.47). Як рэагаваць на дзеянні ***бунтаўнікоў?*** (Т. Процька. Пакутнік за веру і бацькаўшчыну. -Мн., 1996. С.20).

Тое самае можна сцвярджаць і пра натуральнасць у беларускай мове ўтварэнняў ***абразальнік (у слоўніках абразальшчык)***, ***азеляннік (ад азелянення, на месцы азеляніцель (рас. озеленитель)***, ***выпроставальнік (ад выпростаць, на месцы выпраміцель (<рас. выпрямитель, ад выпрямить)*** ды падобныя.

***Бліндажаваць — а не бліндзіраваць.*** Слова ***бліндажаваць*** абазначае "рабіць бліндажы, умацоўваць іх". Тут усё зразумелае і вытлумачальнае. Як і ***мантажаваць*** ад ***мантаж***. А вось што значыць ***бліндзіраваць***? Слоўнікі падаюць яго як засарэлае з значэннем "дадаткова ўмацаваць ваенныя збудаванні" (ТСМБ. Т.I.Мн.,1977.С.386) яно хіба што нагадвае спалучэнне бліны і дзіркі, г.зн. "рабіць дзіркі ў блінах".! І ці трэба падаваць гэтае застарэлае слова ў слоўніках? А вось выразныя структураю і сэнсам словы ***бліндажаваць*** і ***мантажаваць*** варта ўключыць у літаратурны слоўнік.

***Капіца і капешка.*** Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" падае: "***Капешка*** ж. разг. маленькая ***копна***" (т.I.Мн.,1988.С.580). Але чамусьці не бачым тут слова ***капіца*** "маленькая капа" (сена), хоць яно актыўна выкарыстоўваецца ў творах Адамчыка, Брыля, Карпюка ды інш. і мае рэгулярны суфікс ***-іца*** (***вадзіца, сястрыца***). А вось ўтваврэнні на ***-ешка*** для беларускай мовы не характэрныя.

*(Працяг у наступным нумары).*

наша СЛОВА № 7(392) 17 ЛЮТАГА 1999 г.





# Змаганне за мову ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь 12 склікання

## Стэнаграмы 16-й сесіі. Паседжанне 89-е. 23 сакавіка 1995 года, чацвер, 16 гадзін.



Шаснаццатая сесія
Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
дванаццатага склікання

Бюлетэнь № 89

Выданне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
1996

**Шушкевіч С.С.** (Адоеўская выбарчая акруга № 44, г.Менск). Паважаны Прэзідыюм! Паважаныя дэпутаты! Я перш за ўсё хачу сказаць, што дэпутат Грыбанаў, які перада мной выступаў ... Можа, з этычных нормаў вам як рускаму гаварыць аб тым, што такое беларуская мова, а што такое руская, не так і зручна. І тым больш каментаваць пытанні роўнага статусу. Вы ведаеце, калі гэта пытанне павінен вырашыць новы Вярхоўны Савет, дык мы яму проста задаём работу. Але ж без змены ў Канстытуцыі роўнага статусу не будзе, таму што беларуская мова дзяржаўная, пытанне пастаўлена так, што трэба змену ў Канстытуцыю ўносіць, і таму Булахаў меў рацыю, калі гаварыў, што гэта тое, што не падлягае вынясенню на рэферэндум.

Цяпер другое пытанне. Аб дзяржаўных сімвалах. Я б хацеў сказаць, што галоўным тут спецыялістам з'яўляецца дэпутат Качан. Ён вырашыў, што гэты сімвал існуе з 1942 года. Не заплюшчвайце вы вочы на тое, што было. Вы пагядзіце здымкі архіўныя. У 1918 годзе летам бел-чырвона-белы сцяг скідвалі, кайзераўскія салдаты, функцыянеры скідвалі, таму што гэта быў беларускі сцяг, яго трэба было скінуць. Існавала Беларуская дзяржава тады і ...

Не, вы мне ўжо прабачце, я крышку лепей яе ведаю за вас, бо і мову я ведаю беларускую, а гэта на беларускай мове напісана.

У 1919 годзе быў напісаны верш "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", і там "штандарт наш бел-чырвона-белы падняў сабой народны рух". Дык чаго ж вы 1942 год прыплялі сюды? І таму матывацыя тут такая. І самае галоўнае. Глядзіце, што будзе: ці падтрымліваеце вы прапанову аб устанаўленні новага Дзяржаўнага сцяга, Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь? Калі ставіць гэтае пытанне на рэферэндум, то трэба даць апісанне, бо малюнкі па Закону аб рэферэндуме ў бюлетэні не ўносяцца, трэба даць апісанне. Значыць, трэба даць апісанне старой сімволікі, без сярпа і молата. Трэба сказаць так: старую сімволіку без сярпа і молата. Тады ўсё будзе зразумелае. Але не ў гэтым галоўнае. Я заўсёды задаю сабе пытанне: якая мэта правядзення рэферэндуму? І тут я мэту зараз скажу, пра гэта яшчэ гаворкі не было.

Справа вось у чым. Прэзідэнт ажыццяўляе прэс на наш Вярхоўны Савет, што ўсе вы карупцыянеры, злачынцы, п'яніцы ... Гэта ўсё было, я паўтараю словы, я не гавару новага, гэта ўсё там: хто, дзе, як? Але пытанне ідзе аб тым, як ажыццявіць прэс на новы Савет. Як ажыццявіць? А вельмі проста. Глядзіце як. Пытанне: ці падтрымліваеце вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія накіраваны на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй? Правільна тут сказалі, што ніхто не ведае, што гэта такое — эканамічная інтэграцыя. Трэба ж растлумачыць. А ці не лепей бы вам, паважаны Прэзідэнт, напісаць: ці падтрымліваеце вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па паляпшэнню жыццёвага ўзроўню людзей? Тое, што абяцалася ў першую чаргу. І мне здаецца, што гэта пытанне, калі людзі падтрымліваюць, дасць вам тыя козыры, якія вы хочаце мець перад новым Вярхоўным Саветам, а калі не падтрымліваюць — задумайцеся над тым. Я баюся, што такой падтрымкі не будзе.

Што да апошняга пытання. Ну, тут ужо гандаль пачаўся, і раз Прэзідэнт згодзен яго зняць, я думаю, трэба гэта прыняць да ўвагі.

Дзякую за ўвагу.

**Новік У.У.** (Чыгуначная выбарчая акруга № 18, г.Менск). Паважаны Прэзідэнт! Паважаны Вярхоўны Савет ! Я хацэў бы пачаць сваё невялікае выступленне з таго, чым закончыў папярэдні выступоўца: якая мэта рэферэндуму. Сёння ў нашай краіне ёсць шмат праблем. Ёсць праблема ў эканоміцы, спыняюцца заводы, расце беспрацоўе, і мы з вамі павінны цвяроза ацаніць, што ў гэтым выпадку трэба рабіць. У час другой сусветнай вайны, напрыклад, англічане, якія ваявалі з немцамі, падкідвалі немцам розныя праблемы ў выглядзе гульні ў крыжыкі - нолікі. Для чаго? Для таго, каб адцягнуць увагу і даць чым заняцца. Падкінуўшы пытанні, якія стаяць, прапанаваныя Прэзідэнтам нашаму народу, мы закінем у лабараторыі, у цэхі, ва ўсе працоўныя калектывы вось гэтую задумку, якая будзе абмяркоўвацца, і, безумоўна, яна адцягне ўвагу ад тых жыццёвых праблем, якія сёння стаяць у нашым грамадстве. А праблем шмат. Ёсць правалы ў эканоміцы, як я сказаў, ёсць правалы ў нашай унутранай і знешняй палітыцы. І, безумоўна, у любой праблеме ёсць вінаватыя. І для таго, каб заручыцца, што вінаваты не я, трэба перакласці сваечасова віну на другія плечы.

Пытанне першае. "Ці згодны вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?" Прэзідэнт сказаў, што ёсць праблема з адукацыяй нашых дзяцей, таму што фізіку, матэматыку немагчыма выкладаць па-беларуску. Я як спецыяліст у свой час у галіне інфарматыкі магу сказаць адно, што сёння было б лепей, каб нашы дзеці вывучалі гэту навуку па-англійску, бо няма рускіх слоў у гэтай навуцы. І нашы дзеці маглі б тады хутчэй інтэгравацца ва ўсе гэтыя навукі, у інфармацыйныя прасторы, у сістэму тэлекамунікацый, інтэгравацца хутчэй у Еўропу. Сёння, на вялікі жаль, руская мова страціла свае пазіцыі ў гэтай навуцы. Тое ж самае, што і пра медыцыну, і пра ядзерную фізіку, пра тыя складаныя навукі, без якіх немагчыма рухацца да прагрэсу. Таму, магчыма, ёсць праблема сёння ўзмацніць выхаванне і выкладанне англійскай мовы ў нашых універсітэтах і школах, каб нашы дзеці, прыязджаючы ў Еўропу маглі адчуваць сябе роўнымі еўрапейцамі.

Сёння, як ні дзіўна, амаль усе прадстаўнікі нашага ўрада, якія прыязджаюць у Еўропу, глуханямыя, яны не ведаюць еўрапейскіх моў. І я думаю, што на гэта трэба было б звярнуць увагу. Сёння, паставіўшы такое пытанне, мы гэту праблему заганяем яшчэ глыбей.

Я лічу, што можна ўнесці папраўкі ў Закон аб мовах, можна дазволіць нашым канструктарам, інжынерам распрацоўваць дакументацыю на той мове, на якой гэтую дакументацыю купяць. І калі гэту дакументацыю купяць у Японіі, хай яны яе распрацоўваюць па-японску.

Адзінае што, дзяржаўная мова як асноўны дакумент існавання дзяржавы павінна быць адзіная. А як я сёння ўжо сказаў, калі мы ўводзім дзве мовы, мы павінны ўвесці спецыяльны дзяржаўны інстытут, які павінен сачыць за захаваннем роўных правоў гэтых абедзвюх моў. Мы павінны прад'явіць прэтэнзіі да ўсіх дзяржаўных асоб, каб яны на аднолькавым узроўні валодалі гэтымі дзвюма мовамі. І гэта вельмі няпростая рэч, і пра гэта гавораць тыя краіны, у якіх такая сітуацыя з мовай ёсць.

І апошняе, паколькі часу мала. Сёння мы жывём у пераходны перыяд, і, безумоўна, пераход ад таталітарнай сістэмы да сістэмы дэмакратычнага грамадства выклікае шмат праблем. Мы вырашылі з вамі адным махам пераскочыць з таталітарнай сістэмы ў дэмакратычнае грамадства. І прымаючы сваю Канстытуцыю і ўводзячы яе ў дзеянне, зрабілі адну вялікую памылку: тое, што не ўстанавілі перыяд пераходу ад старой сістэмы да новай. І мы ўсе новыя палажэнні Канстытуцыі прапанавалі ўвесці адразу ў дзеянне. Таму я лічу, што да чатырох пытанняў, якія ставіць Прэзідэнт, можна было б дадаваць і пятае, і шостае, і сёмае. Паколькі мы выходзім на рэферэндум, баяцца гэтага не трэба. І адно з пытанняў можна было б сфармуляваць наступным чынам: ці падтрымліваеце вы абмежаванне тэрміну паўнамоцтваў новага Вярхоўнага Савета і Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь да двух гадоў з дня ўступлення вышэйназваных суб'ектаў улады ў свае паўнамоцтвы? Такім чынам, мы б задалі сваймў народу пытанне: ці вельмі добрую мы прынялі Канстытуцыю, ці вельмі добра ідзе кіраванне, і далі б магчымасць наступнаму Вярхоўнаму Савету ў тэрмін за два гады выправіць тыя памылкі, якія мы з вамі дапусцілі, і такім часам абераглі б ад тых сацыяльных разбурэнняў, якія могуць узнікнуць пасля гэтага рэферэндуму.

Усё.

.............................

**Паседжанне дзевяностае. (Пятніца. 24 сакавіка 1995 года. 9 гадзін 30 хвілін.)**

**Старшыня.** ...Калі ласка. Працягваем разгляд пытання правядзення рэспубліканскага рэферэндуму, як мы ўчора вызначыліся. Наступным выступае дэпутат Аламліеў.

**Трусаў А.А.** Спадары дэпутаты! Перад тым, як разглядаць прапановы Прэзідэнта, якія ён хоча вынесці на рэферэндум, патрэбна адказаць толькі на адно пытанне каму гэта выгадна? Беларускаму народу, з кішэні якога Прэзідэнт забярэ апошнія грошы, каб замяніць сотні тысяч пячатак, эмблемаў, дакументаў і шыльдаў, аздобленых беларускай сімволікай, на твор асабістай фантазіі? Не, шаноўныя дэпутаты, народу гэта не трэба. А вось Прэзідэнту і яго камандзе, якая заваліла з трэскам сваю эканамічную праграму, гэта неабходна, як паветра.

Пакуль камуністы, нацыянальныя патрыёты будуць тузаць адзін аднаго, можна зноў з'ездзіць у Маскву ці Брусель, набраць там яшчэ крыху крэдыту, а потым хай аддаюць іх на-шыя дзеці і ўнукі.

Т а к с а м а патрэбна ў апошнія дні працы збіць з панталыку і Вярхоўны Савет, які адмяніў, нарэшце, падатак на дабаўленую вартасць, прыняў да разгляду пастанову аб кампенсацыі грашовых укладаў і Жыллёвы кодэкс у другім чытанні. Аднак вы бачыце, што гэтае пытанне паспяхова забалталі і не разглядаюць.

Пакуль мы тут спрачаемся на пустым месцы, Прэзідэнт рыхтуе чарговы эканамічны ўдар па нашых выбаршчыках і хоча рэзка падняць аплату за жыллё. Дазвольце мне пацытаваць адзін дакумент на мове арыгінала. Цытую: "Прорграммой неотложных мер по выходу экономики Республики Беларусь из кризиса и Национальной жилищной Программой п р е д у с м а т р и в а е т с я поэтапное приближение оплаты населением услуг к фактическим их затратам. Согласно вышеуказанным документам уже в первом полугодии 1995 года тарифы для населения на жилищно-коммунальные услуги должны возмещать около 50 процентов затрат на их оказание. Учитывая большой удельный вес в оплате неселением коммунальных платежей, расходов на отопление (более 60 процентов) по предложению Президента Рэспублики Беларусь эта работа будет осуществляться в основном после окончания отопительного сезона". Скончыцца ацяпляльны сезон, і мы з вамі павінны адказаць нашым выбаршчыкам, чаму яны будуць плаціць за свае кватэры вось гэтыя сумы, якія называе спадар Прэзідэнт.

Паважаныя дэпутаты! Мы з вамі два дні шукалі грошы на выбары, хацелі нават кандыдатаў у дэпутаты пазбавіць сродкаў на існаванне, у той час, калі ў бюджэт закладзены так званыя "прочие расходы" ў памеры 99,6 мільярда рублёў, у тым ліку на патрэбы Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта — ажно 35 мільярдаў рублёў. Таму зразумела, што пэўная катэгорыя "новых" беларусаў, якія ўтульна ўладкаваліся за шырокай спіной нашага Прэзідэнта, вельмі баіцца вынікаў выбараў у новы Вярхоўны Савет. Відаць, баіцца гэтага і Прэзідэнт, бо, з аднаго боку, ён заяўляе, што ў яго "царская ўлада", што ён прыйшоў "усур'ёз і надоўга", як мінімум на 10 гадоў, а з другога боку разумее, што новы Вярхоўны Савет не пацерпіць такіх яго заяў — накшталт, як нядаўна па тэлебачанню гаварыў, што вось гэты закон нават прыняты дзвюма трацімі галасоў, я выконваць не буду, і адразу адправіць яго ў адстаўку. А пасля "мэрсэдэса" ездзіць на працу на трамваі першаму беларускаму Прэзідэнту вельмі не хочацца. Уявіце сабе, каб прэзідэнт ЗША сваім указам звольніў, напрыклад, рэдактара газеты "Нью-Ёрк таймс". Імпічмент, а, магчыма, прымусовае псіхічнае лячэнне яму б з боку кангрэсу было б забяспечана адразу, і прычым за кошт дзяржавы.

Я прапаную не праводзіць ніякіх рэферэндумаў і не зласаваць простых людзей, якія хочуць ведаць, калі ж Прэзідэнт верне ім абяцаныя тэлевізары і халадзільнікі альбо спыніць рост цэнаў і інфляцыю. Тым жа, хто вельмі жадае правесці хоць нейкі рэферэндум, раю сабраць 70 подпісаў па пытаннях наступнага зместу: ці патрэбен на Беларусі інстытут прэзідэнцкай улады наогул. Мы добра памятаем, як з падачы спадара Казлова і яго сяброў па фракцыі "Беларусь" у Канстытуцыю была прыцягнута літаральна за вушы прэзідэнцкая ўлада пайменнымі бюлетэнямі, і раю спадару Лукашэнку ўзяць за гэта спадара Казлова ў сваю каманду, тым больш што там хутка будзе шмат вакантных месцаў. Магчыма, нехта спытае: а што адбудзецца, калі мы з вамі, Вярхоўны Савет, — не прыме, не прагаласуе прапанову Прэзідэнта па рэферэндуму? Адкажу коратка: нічога не адбудзецца. Проста Прэзідэнт супакоіцца на пэўны час, а потым зноў нешта новае прыдумае. Аднак наступныя яго рэбусы з дапамогай Канстытуцыйнага Суда будзе разглядаць новы парламент, і ў гэтым сэнсе дэпутат Пракопаў цалкам мае рацыю.

Дзякуй за ўвагу.

(Працяг у наступным нумары.)

# СКАРЫНА - ЛЕКАР

У калядным нумары "Нашага слова", № 50, за 23 снежня, 1998 году, сказы ў артыкуле "Наведайце медычны музей"; "Прафесійныя дактары з'яўляюцца ў эпоху рэнесансу. Адным з самых вядомых дактароў — быў Францішак Скарына" — навеялі мне жаданне, калі дазволіце, выказацца ў вашай газеце на тэму: "Скарына - лекар"

Ведама, што Францішак Скарына меў два дактараты — "навукаў вызваленых" і "навукаў лекарскіх". Разоў колькі адзначае ён гэта сам у кнігах Біблії свайго выдання, як у кнізе Ісуса Навіна — "в науках вызвольных і лекарствех доктор".

Дактарат у "навуках вызваленых" здабыў ён на Кракаўскім універсітэце. Дактарат — званне доктара медычных навукаў, пасля бліскуча зданых экзаменаў, ува ўрачыстых абставінах атрымаў ён у аўторак, 9 лістапада, 1512 году на універсітэце ў Падуі, Італіі.

Як архіўныя запісы універсітэта падаюць, Францішак Скарына ў часе экзаменаў з уражальнай для ўсіх эрудыцыяй, краснамоўнасцю і тактам развіваў свае думкі, пераконліва абгрунтоўваў тэзы ды абараняў праўду сваіх паглядаў, а разам і гонар свой, свайго роднага і "слаўнага града Полацка", свае Бацькаўшчыны.

Апрача трох актавых запісаў пра Скарыну, якія захоўваюцца ў Старым архіве ўніверсітэту, у "Зале Сарака" (ў Sala die Quaranta) Падуанскі ўніверсытэт мае і Скарынаў партрэт. У зале гэтай калісь выкладаў слаўны Галілеё Галілей. Ягоная простая з дошак збітая катэдра перахоўваецца ў гэтай зале да сёння, а на ёй гіпсавы бюст Галілея.

У гісторыі культуры Беларусі ды ўсходняй славяншчыны доктар Скарына ведамы галоўна, як перакладчык і выдавец кнігаў Біблії, як аўтар прадмоваў і каментараў да іх, як піянер беларускага друку. Дзеля таго і ўвага даследчыкаў была скіравана найперш на ягонай літарурна-выдавецкай дзейнасці.

Мала дагэтуль звярталася ўвагі на Скарыну як лекара. Тымчасам ведама, што з сваіх двух дактаратаў — навукаў вызваленых і навукаў лекарскіх — Скарына асабліва ганарыўся якраз дактаратам падуанскім, медыцынскім. І ў сваёй выдавецкай дзейнасці ён найбольш прэзентаваўся сваім медыцынскім тытулам. У прыпіску да выдадзеных ім кнігаў Скарына колькідзесят разоў перад сваім прозвішчам падае і сваю доктарскую годнасць — "у лекарскіх навуках доктар".

Ведама, што лекарская дзейнасць Скрыны мела месца ў Вільні. З сведчаняў самога Скарыны перад радаю места Пазіняня ў чэрвені 1530 году ведама, што тады ён быў надворным сакратаром і лекрам віленскага біскупа Яна " з князёў літоўскіх".

Пра Скарыну, як лекара вельмі пахвальнае сведчанне дае сам кароль Жыгімонт Казімірavіч у сваёй, выдадзенай 25 лістапада 1530 году, прывілейнай грамаце, якою Скарына быў узяты пад беспасрэднюю каралеўскую апеку і юрыдычную судовую ахову. У ўводным сказе гэтае граматы Жыгімонт пра доктара Скарыну, між іншага, кажа: "прыхіляючыся да шчырых просьбаў некаторых нашых дараднікаў, ды маючы рэкамендацыі аб ягонай чэснасці, лекарскай незвычайнай ведзе, дазнанні і умеласці..."

Існуюць дапушчэнні, што ў Прусію, да герцага Альбрэхта ў Каралявец вясной 1530 году Скарына накіраваўся дзеля шалелай там ад восені 1529 году пошасці "ангельбскага поту", — праўдападобна цяжкога грыпу, але доказаў на гэта няма.

Ускосныя паказанні і на тое, што і падчас свайго другога прабывання ў Празе, недзе ад 1535-га, і да самое смерці ў годзе 1540-м, доктар Скарына, побач працы над заснаваннем каралеўскага парку ў Празе на Градчанах ды афіцыйнага становішча каралеўскага батаніка-садоўніка, займаўся і лекарскай практыкай сярод пражанаў.

Магчыма Скарына займаўся лекарскай практыкай у некаторых акрэсах свайго жыцця і інтэнсіўна, толькі нашая знаёмасць з жароламі біяграфіі выдатнага палачаніна вельмі абмежаваная.

У сувязі з лекарскай прафесіяй Скарыны стаіць і пытанне ягонай праўдападобнай сустрэчы з выдатным доктарам пары Рэнесансу Піліпам Парацэльзам. Парацэльз студыяваў медыцыну на некалькіх універсітэтах і з'ездзіў амаль усю Еўропу знаёмячыся з мясцовымі спосабамі лячэння. У такі спосаб ён здабыў вялікае дазнанне ў тэрапіі. У гісторыі мэдыцыны Парацэльз уважаецца за піянера мадэрнай хіматэрапіі.

У 1520-м годзе Парацэльз быў у Вялікім Княстве Літоўскім і, хіба найперш, у сталіцы яго Вільні. Паводле ягоных словаў і тут ён вывучаў, пазнаваў мясцовыя спосабы лячэння і лекі, і не толькі ад вучоных дактароў, але і звычайных жанчын, знахароў ды чараўнікоў. Згадвае ён пра гэта ў сваіх творах: "Дазнанне сваё з вялікай пільнасцю здабываў я ў Літве, Францы, Гішпаніі, Партугаліі, Англіі, Даніі ды ўсіх нямецкіх краёх..."

У гэтым жа 1520 годзе, калі Парацэльз вывучаў у Літве тайны мясцовага традыцыйнага лячэння, з Прагі ў Вільню пераехаў якраз доктар Скарына. І Парацэльз і Скарына, выдатныя на гэтулькі асабістасці лекарскага і навуковага свету тае пары, што непраўдападобна, каб прабываючы ў тым самым часе у Вільні яны не сустрэліся, хоць няма на гэта як дагэтуль канкрэтных дадзеных.

Для лепшага асэнсавання характару навуковых зацікаўленняў доктара Скарыны трэба звярнуць увагу, што на дрэварытным партрэце, што ў кнігах Біблії, Скарына прадстаўлены не, як рэлігійны дзеяч, а як вучоны свецкі, як лекар. На партрэце Скарына сядзіць пры пульпіце і пішa ў сваім кабінеце, ў якім шмат кнігаў, пясочны гадзіннік, тагачасная астранамічная схема свету sphera mundi, розныя прадметы штодзённае патрэбы і ўжытку, пасярэдзіне ж на, засланым на пульпіце ўзорным саматкане, Скарынаў герб, маладзік у сонцы, але ніякіх рэлігійных прадметаў, ці эмблемаў. Толькі з таго, што дрэварыт пямешчаны ў кнігах Біблії Скарынавага перакладу і друку, дагадвацца трэба, што партрэт паказвае доктара Скарыну пры працы над перакладам якраз Біблії.



**Помнік Францішку Скарыну ў Полацку**

Sphera mundi, астралагічная дакапернікава схема руху нябесных целаў, змешчана на партрэце не таму, каб паказаць на высокую вучонасць доктара Скарыны, а таму, што тады яна была неабходная для доктара медыцыны прылада, якую мыусіў мець і Скарына. Астраномія і астралогія ў тыя часы былі важнымі дапаможнымі галінамі медыцынскае веды. Ад правільнага азначэння пазіцыі нябесных целаў і незалежнае гэтае інтэрпрэтацыі, ад "гараскопаў" залежалі тады і тэрапія і прагноз. Разумеў гэта добра калісьці Максім Багдановіч, калі свой верш пра доктара Скарыну пачаў словамі: "Скарына, доктар лекарскіх навук, у доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры".

Важнай дапаможнай навукай медыцыны ў Скарынавы час, побач астраноміі, была і батаніка, бо ў лячэнні ўжывалася ўсякае зеліва — цвет, лісце, кара, карэнні розных раслінаў. Батаніка тады ўваходзіла ў курс лекарскіх навукаў, і гэта было падставай таго, што кароль Фэрдынанд І запрасіў доктара Скарыну, як спецыяліту для заснавання каралеўскага парку ў Празе на Градчанах.

Таму зразумела, што лекарная адукацыя і прафесія знайшлі адбітак у Скарынавай пісьменніцкай творчасці. У выдадзеных ім рэлігійных кнігах, Скарына ці раз адзначае, што чытаць іх добра не толькі для духовага, але і цялеснага здароўя. "Псалмы... всякія немошчі духовныя і целесныя, уздоровляют...". У прадмове да Біблії Скарына кажа: "В сей книзе всі лекарства душевные і телесные зуполне знойдете".

Асабліва яскрава лекарская Скарынавая адукацыя, прафесія і ментальнасць адбіваецца ў прадмове, да другое друкаванае на беларускай зямлі кнізе — віленскага АПОСТАЛА 1525 году:

"Велікій Лука Анціхійскій в лекарскіх науках доктор пренавченый, і евангеліст Ісусов Хрістов предівный... Он же будучы лекаром телесным досконалым, віде все речы телесные іже суть суетны, і мінущы, Возжеле быті лекарем душ нашых... Знал убо іже не только жів человек хлебом, ілі лекарством, но боле всякім словом, еже походіт із уст божіх..."

Пры заакцэнтаванні факту, што святы евангеліст Лукаш быў "у науках лекарскіх доктарам" адчуваецца гордае задавальненне аўтара прадмовы і выдаўца кнігі, што "ў лекарскіх навуках доктар" і ён. І таксама, як евангеліст Лукаш "будучы лекарам досконалым", і ён, выдаючы кнігі Біблії, зажадаў быць і "лекарам душ нашых".

Хоць вестак пра Скарынаву лекарскую дзейнасць маем не шмат, ды іх дастаткова на довад таго, што лекарская прафесія займала ў ягоным жыцці паважнае мейсца. Ведама таксама, што лекарская традыцыя роду Скарынаў не абарвалася на смерці Францішка Скарыны. За прыкладлам бацькі медычную прафесію здабыў і лекарам працаваў Скарынаў сын Сымон. Практыкаваў ён медыцыну на паўдні Чэхіі ў Крумлёве.

Францішак Скарына — першы ведамы беларускі дактарызаваны лекар, ды першы двойчы нават дактарызаваны вучоны і Беларусі, і ўсяе Усходняе Еўропы. Адзначаць важна факт, што на свайго першага доктара медыцыны Маскоўшчына здабылася аж 182 гады пасля дактарызацыі Скарыны, бо толькі ў 1694 годзе ў той самай італьянскай Падуі з лекарскіх навукаў дактарат здабыў першы расеец — Пётр Васільевіч Постнікаў.

Скарына, тыповы дзеяч пары рэнесансу, быў лекарам, што не замыкаўся ў вузкіх межах прафесійных толькі справаў і зацікаўленнеў, а ўніклівым інтэлектам сягаў у іншыя галіны навуковага пазнання. Ягоныя зацікаўленні абымалі: тэалогію, літаратуру, права, медыцыну, батаніку, друкарства, мастацтва.

Ягоныя асягненні:

1. Даў пачатак беларускаму друку і ўсяе Усходняе Еўропы. Дзякуючы доктару Скарыну беларускі друк на колькі дзясяцігоддзяў выпярэдзіў друк Маскоўшчыны (1564) ды і Украіны (1574).

2. Дзякуючы доктару Скарыну беларускі народ быў другім сярод славянскіх — пасьля чэшскага — што меў друкаваную Біблію ў роднай мове.

3. У гісторыі графічнага мастацтва заслуга Скарынавая тая, што ён першы ў кнігах славянскага кірылічнага друку увёў звычай багатага іх ілюстравання гравюрамі.

4. Скарына меў вялізарны ўплыў на развіццё друкарства ў Беларусі ды і усёй Усходняй Еўропы. Да канца 16-га стагоддзя пасля заснавання Скарынам першае на беларускай зямлі друкарні ў Вільні ў 1522 годзе, адна за адной паўстаюць у Беларусі іншыя сем друкарняў: Нясвіжская (1562), дзе друкаваў свае кнігі Сымон Будны, Заблудская гетмана Рыгора Хадкевіча (1569), Віленская Мсціслаўца, Цяпінская Цяпінскага, Віленская Гарабуды, Віленская Мамонічаў, і Віленская Брацкая. Калі лічыць Скарынавую Пражскую, дык 9 беларускіх друкарняў, з якіх выйшла да канца 16-га стагоддзя болей ста кніг друкаваных у царкоўна-славянскай і беларускай мовах. Сярод іх такія выдатныя помнікі старога беларускага друку, як Біблія др.Францішка Скарыны (1517-1519), Мсціслаўцава Евангелле 1575 году, ды Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году, друкаваны ў друкарні Мамонічаў.

Лікам друкарняў і надрукаваных у іх кнігах беларуская землі ў 16 стагоддзі займалі вядучае мейсца сярод краёў усходняе Еўропы. З гэтага гледзішча далёка за сабой пакінулі землі Маскоўшчыны, дзе да канца 16-га стагодзьдзя выйшла толькі 18 кніг у мове царкоўна-славянскай, кніг літургічных.

5. Скарына быў не толькі першадрукаром і перакладчыкам Біблії на беларускую мову, ён быў пісьменнікам. Ягоныя прадмовы да кніг — гэта серыя маральна-філасафічных разважанняў, якія сталіся класікай беларускай літаратуры.

Слаўны палачанін першы запавятаў нам шанаваць сваю мову, горда заяўляючы, што яго "Міласціва Бог з таго языка на свет пусціў".

І сёння Дух Скарыны з ягонымі запаветамі патрэбны нам болей, як калі, лячыць нашыя крывавыя раны, якія мы, за непашану роднаму слову, у значнай меры, самі сабе нанясл. ....

*Раіса Жук-Грышкевіч*

*Артыкул апрацаваны на падставе прац доктара Вутаўта Тумаша.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 15. 02. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 234
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 15 000 руб., 3 мес.- 45 000 руб.
*Цана ў розніцу:* 5 000 руб.